Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

9 мая 1997 года
ПЯТНІЦА
№ 21
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

## ВАМ, ВЕТЭРАНЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ, НАШ НІЗКІ ПАКЛОН!

**Са святам – светлым і святым Днём Перамогі!**

*Анатоль АСТРЭЙКА*

*ХХХ*

*...Няхай гудзе,*
*як першы гром*
*вясною,*
*Усцяж па ўсёй зямлі,*
*па ўсіх марах*
*Жывая слава*
*пераможцам бою,*
*Паборнікам і праўды*
*і дабра.*

*Хай слава асяніць,*
*крылом атуліць*
*І хату воіна,*
*і сінь нябёс,*
*Адорыць шчасцем*
*кожную матулю,*
*Каторай сын*
*цяжар ваенны нёс.*

*1945*



*НА ЗДЫМКУ: ветэран вайны і працы з в. Падстарынь Івацэвіцкага раёна Ілья Антонавіч Васілевіч. Матэрыял пра яго чытайце на 2-й стар.*

*Фота П. ЛУЧЫЦА.*





## Прафесія для беспрацоўных

**БАРАНАВІЧЫ.** Вучэбна-вытворчы комплекс „Прафесійна-тэхнічнае вучылішча-тэхнікум Белкаапсаюза" выдаў пасведчанні аб заканчэнні курсаў першай групе прадаўцоў харчовых і нехарчовых тавараў.

Акрамя выпускніц школ, якія мінулай восенню не паступілі ў болей прэстыжныя навучальныя ўстановы, тут займаліся і тыя, хто мае прафесію, але па розных прычынах страцілі работу. Апошніх накіравалі на вучобу Баранавіцкі гарадскі, Пінскі, Івацэвіцкі і Бярозаўскі цэнтры занятасці, якія фінансавалі падрыхтоўку ці перападрыхтоўку кадраў.

Нехта з новага атрада прадаўцоў стане за прылавак дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю. Нехта, каму не ўдасца ўладкавацца, пойдзе ў „дробны бізнес", прымкне да вялікай арміі гандляроў, якіх рыначны сацыялізм выштурхнуў на базарныя плошчы.

● *ЧАС МЯСЦОВЫ*

## Канец кар'ера-сметніка

**ІВАЦЭВІЧЫ.** На паўночнай ускраіне горада закончылася існаванне былога кар'ера, з цягам часу ператворанага ў велізарны сметнік. Яго засыпалі, як кажуць, усе разам – арганізацыі і прадпрыемствы горада. На месцы кар'ера разбіты парк, пасаджаны дрэўцы. Нагадаем, што ў гады вайны ў гэтым кар'еры расстрэльвалі яўрэяў, партызан і проста мірных жыхароў Івацэвічаў і навакольных населеных пунктаў. Думаецца, што памятны знак пра гэтыя трагічныя падзеі, ці помнік таксама знойдзе сабе месца ў гэтым парку. Прынамсі, гэта гарадскія ўлады даўно абяцаюць жыхарам горада і раёна.

## Смех у зале

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Пры перапоўненай зале ў гарадскім Доме культуры адбылася гумарына – сустрэча каманд старшакласнікаў гарадскіх школаў у клубе вясёлых і знаходлівых. Сустрэча ўдалася на славу – смех у зале амаль не сціхаў. Члены камандаў паказалі сваю і адукаванасць, і таленавітасць, і інтэлігентнасць. Яны былі музыкальнымі, прыгожымі, вострымі на слова. Яны гаварылі аб усім на свеце, у тым ліку і пра палітыку. Гаварылі (ці спрабавалі гаварыць) на рускай, англійскай і нават японскай мовах. На жаль, пра беларускую мову забылі. Чаму так атрымалася? Мо па вучнёўскай звычцы некага слухацца...

У склад журы ўваходзілі не толькі культработнікі, але і людзі іншых прафесій, у тым ліку і рэдактар „Газеты для вас" Л. Цалуйка. Журы выказала камандам КВЗ свае заўвагі, пажаданні і захапленні, а прызавыя месцы падзяліла так: СШ № 2 – першае, СШ № 1 – другое, СШ № 4 – трэцяе і СШ № 3 – чацвёртае. Каманды атрымалі і грашовыя ўзнагароды.



● *НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ*

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### ГАЛОЎНАЕ – НЕ ГРОШЫ, А ІХ КОЛЬКАСЦЬ...

Па сярэднямесячнаму ўзроўню зарплаты сярод галін народнай гаспадаркі рэспублікі за першы квартал, як сведчыць статыстыка, па-ранейшаму лідзіравала банкаўская сфера. Яе супрацоўнікі ў сярэднім атрымлівалі па 3 мільёны 99 тысяч рублёў. Параўнальна высокія паказчыкі за гэты перыяд таксама ў авіятараў – 2 мільёны 643 тысячы рублёў і ў супрацоўнікаў судовых і юрыдычных устаноў – 2 мільёны 637 тысяч. Больш за два мільёны сярэднямесячная зарплата яшчэ толькі ў сферы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і збыту ў апараце органаў дзяржаўнага кіравання.

Самай нізкай па-ранейшаму застаецца сярэднямесячная зарплата ў работнікаў сельскай гаспадаркі – 835 тысяч рублёў, сацыяльнага забеспячэння – 1018,4, культуры – 1304,3, мастацтва – 1257,8 тысячы рублёў.

### ХАДАКОЎ ШМАТ, А ПРЭЗІДЭНТ – АДЗІН

У Адміністрацыі Прэзідэнта РБ створана новая структура – упраўленне па рабоце з грамадзянамі, якое будзе ажыццяўляць прыём тых, у каго ёсць просьбы, пытанні і скаргі да кіраўніка дзяржавы. Адказныя работнікі апарата Прэзідэнта адзін раз на тыдзень будуць весці прыём грамадзян па адрасу: г. Мінск, вул. Кірава, 23.

### ЦЯПЕР БЕЛАРУСЬ МАЕ СВАЁ „ЯБЛОКО"

Палітычная палітра Беларусі ў самым канцы красавіка прыкметна пашырылася – у Мінску прайшоў установчы з'езд беларускага грамадскага аб'яднання „Яблоко".

Адкрываючы яго, старшыня аргкамітэту па правядзенню з'езда, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ 13-га склікання Вольга Абрамава падкрэсліла два, на яе погляд, важнейшыя моманты: па-першае, беларускае „Яблоко" – гэта не палітычная партыя, а толькі грамадскае аб'яднанне; па-другое, яно – не філіял расійскага „Яблока", а самастойная арганізацыя, якая бярэ за аснову суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, Вольга Абрамава адзначыла, што беларускае „Яблоко" выступае за інтэграцыю з Расіяй, але з'яўляецца праціўнікам палітыкі А. Лукашэнкі, лічачы яго дыктатарам. Аб'яднанне лічыць, што сутнасць руху Беларусі да дэмакратыі і эфектыўнай эканомікі заключаецца ў спалучэнні ліберальнага і сацыяльнага падыходаў да вырашэння ўсіх грамадскіх задач.

Кіраўніком беларускага „Яблока" абраная Вольга Абрамава. Зацверджаны статут, базавыя прынцыпы, эканамічная платформа аб'яднання.

### СВАЮ ПЯТУЮ КНІГУ СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ ПРЫСВЯЦІЛА ЧАРНОБЫЛЮ

У Швецыі выйшла кніга вядомай беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч „Чарнобыльская малітва – хроніка будучыні".

– Яе галоўная думка – паказаць, што бяда Чарнобыля – гэта не толькі гора Беларусі, Украіны і Расіі, а трагедыя агульначалавечага, планетарнага маштабу, якая ў канцы тысячагоддзя прымусіла ўсіх пераасэнсаваць многае навокал, – сказала Святлана Алексіевіч на прэзентацыі кнігі, што адбылася ў Стакгольме ў Міжнародным цэнтры Ульфа Пальмэ.

### ІЗНОЎ ПАДАРАЖАЛА ГАРЭЛКА

З 23 красавіка ў Беларусі зноў падаражала белая гарэлка – у сярэднім на 15 працэнтаў. Паўлітра „Пшанічнай" каштуе цяпер 40.600 рублёў, а „Белай Русі" – 45.200 рублёў.

### ВЫБУХ НА ГАЗАПРАВОДЗЕ

На газаправодзе Таржок–Мінск–Івацэвічы адбыўся выбух. Прычына – уцечка газу, які потым загарэўся. Пашкоджанымі аказаліся 50 метраў газаправода, у выніку пажару знішчана 10 гектараў лесу. На шчасце, здарэнне абышлося без чалавечых ахвяр.

**(Па матэрыялах рэспубліканскага друку).**

● ВЕКАПОМНАЕ

# І ЎЗНЯЎСЯ СЦЯГ — СІМВАЛ ПЕРАМОГІ

**НА ВАЧАХ ЧЫРВОНААРМЕЙЦА ІЛЬІ ВАСІЛЕВІЧА НАД КУПАЛАМ РЭЙХСТАГА — АПОШНЯЙ АПОРЫ ГІТЛЕРАЎСКАГА ФАШЫЗМУ**

ШТУРШКОМ да з'яўлення гэтага артыкула стаў тэлефонны званок у рэдакцыю. Наш даўні чытач, былы настаўнік, а сёння пенсіянер з в. Падстарынь Сцяпан Кандрацьевіч Прыступчык, сказаў літаральна наступнае: „Ваша газета шмат расказвае пра людзей, іх лёсы, пра тое, якое складанае жыццё даводзіцца пражыць іншаму чалавеку. Я з задавальненнем чытаю такія артыкулы. І сапраўды, жыццё — рэч непрадказальная і ў кожнага яно складваецца пасвойму. Як, напрыклад, у майго аднавяскоўца Ільі Антонавіча Васілевіча. Большую частку свайго жыцця ён аддаў калгасу, лічыўся лепшым слесарам і токарам. Сёння гэта адзін з найпаважаных людзей у Падстарыні.

Але не кожны нават у нашай вёсцы ведае, што Ілья Антонавіч закончыў вайну ў Берліне, а полк, у якім ён служыў, штурмаваў рэйхстаг. Думаецца, ветэран мінулай вайны І. А. Васілевіч заслугоўвае таго, каб пра яго расказала на сваіх старонках ваша газета".

Вось такія словы мы пачулі па тэлефоне ад С. К. Прыступчыка. І, канечне ж, не маглі пакінуць іх без увагі.

НАВАТ не ведаючы, кім працаваў Ілья Антонавіч да выхаду на пенсію, можна было лёгка здагадацца пра гэта, ледзь пераступіўшы парог ягонай хаты. Усюды — слясарскія прыналежнасці: розныя ключы, ціскі, напільнікі, абцугі, шмат іншай жалезнай драбязы. Сам гаспадар сустрэў нас з веласіпедным колам у руках і, прывітаўшыся, адразу ж патлумачыў: „Вось папрасіў чалавек спіцы перацягнуць, я і ўзяўся. А што больш на пенсіі рабіць, да ўсяго аднаму ў хаце? Зробіш дабро людзям — самому прыемна".

Добрай, шчырай усмешкай свяціўся твар 73-хгадовага Ільі Антонавіча Васілевіча. Мяккі і прыемна гучаў яго голас. Няспешна, старанна падбіраючы кожнае слова, пачаў ён успамінаць эпізод за эпізодам сваёй асабістай салдацкай эпапеі, пачатак якой прыйшоўся на ліпень 1944-га года. Да канца вайны заставалася без двух месяцаў год, але хто тады мог ведаць пра гэта. Бо ніхто не ў стане быў прадказаць, што чакала нашых салдат на чужой, а тым больш на варожай зямлі.

АПРАНУЎ свой салдацкі шынель Ілья Васілевіч ужо ў Волагдзе, куды пасля мабілізацыі трапіў у запасны полк. Высокага, стройнага, лоўкага, прызначылі яго ў пяхоту, даўшы яму ўсё — сапёрную рыдлёўку, без якой пехацінец не пехацінец, кацялок, біклагу для вады, патранташ ды рэчавы мяшок. Усё, акрамя хіба што вінтоўкі. Бо напачатку штодня вучыліся правільна накручваць на ногі паўтараметровыя абмоткі, як неад'емны тагачасны атрыбут да салдацкіх чаравікаў, па камандзе падаць на зямлю ды хутка падымацца з яе, поўзаць папластунску і закапвацца ў зямлю, выконваючы акоп у адпаведнасці з паступіўшай камандай: то неглыбокі, каб можна было лежачы схавацца ў ім, то глыбей метра, каб ужо і прысесці ў ім магчыма было. Іншы раз за гэткім штодзённым заняткам і не думалася нават, што недзе ідзе вайна.

АЛЕ яна ішла, патрабуючы ўсё новых і новых ваяроў. І каб не нага, нацертая да крыві перасохлым яшчэ недзе на рэчавым складзе чаравікам, Ілья трапіў бы на фронт разам са многімі сваімі аднавяскоўцамі і землякамі. Толькі яны паехалі, а ён яшчэ з тыдзень праваляўся ў шпіталі са сваім, атрыманым далёка ад вайны „раненнем". Калі ж пагрузілі ў вагоны чарговую партыю салдат, побач не аказалася анікога са знаёмых.

Не пашанцавала Ільі Васілевічу і яшчэ ў адным. Вельмі спадзяваўся ён, што на захад іх адправяць праз Івацэвічы, а значыцца, з'явіцца магчымасць яшчэ раз, мо ў апошні, бо не на баль жа едуць, зірнуць на родныя краявіды, а мо і ўбачыць кагось з землякоў ды бацькам абнадзейваючае слова перадаць. Толькі цягнік рушыў на Латвію, і першым прыпынкам аказалася Рыга. Там ужо і распіхвалі іх па падраздзяленнях, на гэты раз франтавых. Так трапіў Ілья ў 756-ты стралковы полк, на той час яшчэ не вельмі вядомы, бо толькі ў апошнія красавіцкія дні апошняга года вайны ён праславіўся тым, што разведчыкі гэтага палка Ягораў і Кантарыя ўзнялі сцяг над рэйхстагам.

АЛЕ да гэтага моманту было яшчэ няблізка. Пакуль жа былі доўгія, 70-цікіламетровыя маршы, была „абкатка" на перадавой, калі ўсю ноч даводзілася ляжаць, моцна прыціснуўшыся да зямлі, і чакаць каманды „наперад" пад ззянне варожых асвятляльных ракет ды посвіст пралятаючых над галавою снарадаў. Іншы раз многае станавілася незразумелым і нават невытлумачальным не тое што для салдат і сяржантаў, але мо нават і для ўзводных, ротных і батальённых камандзіраў. Бо здаралася, ледзь акапаюцца яны на перадавой, змяніўшы тых, хто знаходзіўся перад імі, як раптам ззаду ўжо з'яўляюцца новыя салдаты, з нейкага іншага палка, і пачынаюць акапвацца. А па другому батальёну, у якім служыў Ілья Васілевіч, ужо нясецца каманда падняцца, пастроіцца ў калону і ісці ў тыл. І так здаралася даволі нярэдка.

Здарылася такое і тады, калі 756-ты стралковы полк палкоўніка Зінчанкі апынуўся ў прадмесці Варшавы—Празе. Помніцца, як камандзір палка ноччу перад усім строем пытаўся ў салдат: „Ведаеце, дзе мы знаходзімся?" І сам жа адказваў: „Мы прыйшлі, каб дапамагчы Варшаве".

Толькі і на той раз аніякіх баявых дзеянняў не адбылося. Салдаты і слыхам не чулі пра нейкае там Варшаўскае паўстанне, відаць, не дадзена было ім ведаць пра гэта. Не сказаць, каб асабліва рваліся ў бой пехацінцы, але не-не дый паціскалі плячыма: ці то вайна гэта, ці не, бо адны маршы ды маршы. Не задаючы ўслых такіх пытанняў (там, наверсе, лепш бачна і зразумела, што і да чаго), дайшлі пехацінцы палкоўніка Зінчанкі да Одэра.

Добра помніць Ілья Васілевіч, як спыніліся яны перад нейкім возерам і як паступіла каманда распачаць трэніроўкі па яго фарсіраванні з тым, каб ужо добра падрыхтаванымі фарсіраваць Одэр. Цэлы дзень пакутавалі салдаты, хто па бервяне, хто па дошцы ці зробленай з чароту падушцы спрабуючы пераадолець водную перашкоду. І смешна было на ўсё гэта глядзець, і грэшна, бо дурню было зразумела: пры такім фарсіраванні не ўцалець салдатам не тое што ад варожага абстрэлу, але і ад звычайнага ветру, які раптам узніме на рацэ хвалі.

Відаць, зразумелі гэта і вышэй, бо ўжо на другі дзень прывезлі на машынах дэсантныя лодкі — па адной на 12 чалавек. Зноў пачаліся трэніроўкі з камандамі накшталт „лодкі на ваду!", „лодкі ва ўкрыццё!", пасля якіх салдаты ў расшпіленых гімнасцёрках і чаравіках на босую нагу, з падпярэзанымі прама на голае цела гранатамі ды рыдлёўкамі бегалі туды-сюды, заліваючыся потам, ажно пакуль не паступіў яшчэ адзін загад: узводзіць праз раку мост. Клалі яго сапёры, пяхота падсабляла, і пераправа ўзнікла за адну ноч. Першымі апрабавалі яе нашы танкі, затым рушыла артылерыя, і толькі потым перапраўляліся праз Одэр пехацінцы. Фашысты не асабліва перашкаджалі гэтаму, рэдкія снарады то праляталі над галавою, то падалі ў раку далёка злева ці справа ад маста, узнімаючы слупы вады.

ПЕРШЫ сапраўдны бой адбыўся ўжо за Одэрам. Пасля працяглай артпадрыхтоўкі ўзняліся салдаты ў атаку і рушылі ўперад, толькі магутнае „ура" хваламі перакочвалася па ўсяму фронту. Не адчуваў асаблівага страху Ілья Васілевіч, ведаў: бойся — не бойся, але калі наканавана — смерці не пазбегнеш. А яшчэ помніў ён бацькоўскае благаслаўленне, іх малітвы, каб убярог Гасподзь іхняга сына. І сам часта звяртаўся Ілья да Бога, маліўся пры кожным зручным выпадку, бо вырас ён у глыбока веруючай сям'і, у якой штодня звярталіся ў малітвах да Бога па дапамогу і літасць. І тады, у тым першым баі, калі фашысты, адступіўшы на новыя абарончыя рубяжы, палівалі савецкіх салдат, залегшых у чыстым полі, шчодрым смяртэльным агнём, і потым, у іншых такіх сутычках, абыходзіла куля Ілью Васілевіча. Гінулі адны, атрымоўвалі раненні другія, а ён, як кажуць, цэлым і непашкоджаным ішоў і ішоў уперад. Так і дайшоў да Берліна, так і ўвайшоў у складзе свайго палка ў гэта варожае логава.

А тут зусім не тое было, што ў тых, папярэдніх баях. Калі кароткімі перабежкамі рухаліся па берлінскіх вуліцах, з кожнага акна, з кожнай разваліны іх падпільноўвалі ці то гітлераўскія снайперы, ці нават падлеткі з „гітлерюгенда" з фаўстпатронамі. Быў выпадак, што толькі пасля таго, як пушка-саракапятка накрыла варожае кулямётнае гняздо, змаглі яны, няхай марудна, але рушыць далей, як аказалася, усё бліжэй да рэйхстага. І ўжо ў нейкіх некалькі сотнях метраў ад яго аб'явілі нашым салдатам, што іх баявая задача — узяць у шчыльнае кальцо рэйхстаг і штогадзіна звужаць яго, не даючы выбрацца адтуль фашыстам.

Між тым, фронт пайшоў уперад, і толькі рэйхстаг заставаўся ў нашай аблозе, якая характарызавалася начнымі вылазкамі аўтаматчыкаў ды з'яўленнем на раніцу на галоўным гітлераўскім будынку то там, то тут чырвоных сцягоў, устаноўленых разведчыкамі. Сапраўднае ж наступленне на рэйхстаг, і гэта добра помніць Ілья Васілевіч, распачалася на досвітку 30 красавіка. Цяжкім быў бой, які працягваўся да позняга вечара. А на другі дзень убачылі на свае вочы Ілья і яго баявыя сябры вялікае чырвонае палотнішча на франтоне рэйхстага. Ужо некалькі пазней даведаліся яны, што замацавалі сцяг, перададзены 756-му стралковаму палку спецыяльна для гэтай мэты Ваенным саветам 3-й ударнай арміі, аднапалчане-разведчыкі сяржант Міхаіл Ягораў і старшы сяржант Мелітон Кантарыя.

УЖО трапятаў на майскім ветры Сцяг Перамогі, натхняючы нашых воінаў на мужнасць і гераізм, але не здаваліся фашысты. І толькі 2-га мая выкінулі яны белы сцяг і пачалі выходзіць са сваіх укрыццяў. На вачах у Ільі Васілевіча яны кідалі ў агульную кучу зброю, строіліся ў калону па чатыры чалавекі і адыходзілі, канваіруемыя нашымі салдатамі. Нарэшце заціхлі стрэлы і разрывы снарадаў, і такая цішыня ўсталявалася вакол, што іншы раз яна здавалася больш жудаснай, чым артылерыйская кананада. Не адразу прывыклі да такой цішыні пераможцы. А прывыклі — і пачалі жыць звычайным салдацкім жыццём. Полк, у якім служыў Ілья, ажно месяц знаходзіўся ў рэйхстагу, потым на нейкі час размясціўся за Берлінам уздоўж дэмаркацыйнай лініі з саюзнікамі-англічанамі, і толькі праз месяц пагрузілі ў вагоны і павезлі на ўсход, як аказалася, у Расію.

І на гэты раз не пашчасціла Ільі Васілевічу праехаць праз Івацэвічы, хоць ён ужо выпрасіў у аднаго з салдатаў трафейны нямецкі веласіпед і гатовы быў па дарозе на новае месца службы хоць на якую гадзінку сарвацца ў родную Падстарынь, каб, пабачыўшы родных, потым дагнаць эшалон і прадоўжыць далейшы шлях. Але цягнік апынуўся спачатку ў Гродне, потым у Слоніме, затым праз Баранавічы рушыў далей, у Іванаўскую вобласць, дзе да 1947-га года давялося яшчэ цягнуць салдацкую лямку падстарыньскаму хлопцу. І толькі ў сакавіку таго ж года ўвайшоў у родную хату прыгожы, памужнелы салдат, на гімнасцёрцы якога бляскам адлівалі медалі „За адвагу", „За баявыя заслугі", „За ўзяцце Берліна" і „За перамогу над Германіяй".

Былі радасныя слёзы бацькоў Антона Канстанцінавіча і Ульяны Аляксандраўны, былі моцныя абдымкі і віншаванні аднавяскоўцаў са шчаслівым вяртаннем.

ЗДАЕЦЦА, зусім нядаўна гэта было, настолькі глыбока ўрэзалася гэтае, не маючае сабе роўных па ўсхваляванасці імгненне, а ўжо хутка паўстагоддзя міне. За гэты час столькі работы ўсялякай — і калгаснай, і сваёй — перарабіў былы франтавік Ілья Антонавіч Васілевіч, да ўсяго, сыноў трох выгадаваў ды ўнукаў дачакаўся. І жыве сёння ў спакоі і ўдзячнасці за пражытае, не-не дый успамінае, часцей на святах якіх, пра свой праслаўлены 756-ты стралковы полк, пра баявых сяброў-таварышаў — жывых і тых, каму не суджана было дажыць да Перамогі. А бывае ўва сне ўбачыць раптам перад сабою высокі гмах рэйхстага і тое вялікае чырвонае палотнішча на самым яго купале, якое абвясціла аб перамозе над лютым ворагам. Гэты момант, які памяць чырвонаармейца Ільі Васілевіча ўвабрала ў сябе ў тую далёкую першамайскую раніцу 1945-га года, ужо аніколі не забыць былому франтавіку. Як і ўвогуле вайны.

**М. РЫМАЧ.**

● ВАША ПІСЬМО

## Будулай разважаў інакш

*Быў на бацькоўскім сходзе ў сярэдняй школе № 4. Размова вялася аб прадстаячых выпускных экзаменах. І настаўнікі, і бацькі з асаблівай заклапочанасцю абмяркоўвалі ўсе аспекты гэтай справы. Гаварылі і аб адзнаках, і аб узроўні падрыхтоўкі выпускнікоў, і аб нагрузцы, маральнай і фізічнай, якая кладзецца на юнакоў і дзяўчат.*

*Абмяркоўвалася і пытанне аб апошнім балі, развітанні са школай. Бацькам паведамілі, што ў гэтым годзе правядзенне застолляў у школьнай сталовай забаронена.*

*„Кім?" — запыталіся мы. Нам, што называецца, літаральна паказалі пальцам уверх.*

*— Дык мо салодкі стол арганізаваць, — паспрабавалі мы ўгаварыць настаўнікаў.*

*— Не і не, — быў адказ. — Калі будзе салодкі стол, то хто можа гарантаваць, што на ім нічога-нічога гаркага не акажацца. Урэшце-рэшт адказнасць за гэта будуць несці настаўнікі.*

*Вядома, мы, бацькі, настаўнікаў разумеем. Калі яны маюць вось такі „сухі" загад зверху, то мусяць яго выконваць. Але ж... Ці не падобны мы цяпер на тых, пра каго кажуць: скажы маліцца, дык лоб разаб'е?*

*Сапраўды, давайце паразважаем. Выпускнікі маюць пашпарты, на выпускным вечары атрымаюць і атэстаты сталасці. Дык чаму ім нельга разам з бацькамі і настаўнікамі ўзняць і выпіць бакал шампанскага? Бакал, які будуць наліваць ім любячыя рукі, а не сабутэльнікі за вуглом. Памятаеце, як у вядомым фільме „Цыган" яго галоўны герой Будулай разважае прыкладна так:*

*— Калі нельга сына ахаваць ад чаркі і гарэлкі, і калі ўсё роўна ў жыцці надыдзе час яму ўзяць гэту чарку, то няхай налье яму гарэлкі любячая рука.*

*Так разважаў мудры Будулай. Мы ж чамусьці па загаду зверху робім інакш. Зноў вяртаемся да забаронаў, да імітацыі ідэальных людзей, якія віно і гарэлку ў рот не бяруць і дарослым дзецям рабіць гэтага таксама не даюць.*

*Ці не пахне гэта ханжаствам? Хто дасць гарантыю таго, што нашы выпускнікі на выпускным балі не вып'юць таго ж віна — толькі не за сталом з бацькамі і настаўнікамі, а схаваўшыся за вуглом школы? Што, так лепш будзе?*

**Р. СЛЯСАРЧЫК,**
*жыхар г. Івацэвічы.*

